PL ISSN 0546—1960
Nr INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 24 (1831) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 16 ЧЭРВЕНЯ 1991 г. ЦАНА 800 зл.

А такі на Праваслаўе на Беласточчыне ўзмацняюцца і наглеюць. Удзень з беластоцкіх газетаў „Кур'ера паранкага", „Кур'ера падляскага" ды іншых цуркам цячэ бруд, якім тыя, што лічаць сябе „вызнаўцамі адзінай праўдзівай веры", паліваюць сваіх „адлучаных праваслаўных братоў". А па начах над Беласточчынай шугаюць зарывы ад падпаленых праваслаўных храмаў, капліцаў, плябанняў ды ў мураваных цэрквах, што не даюцца спаліць, аж гудзе трэск узломваных дзвярэй і вокан ды енк старажытных іканастасаў, як з іх рабаўнікі выдзіраюць іконы. Неталеранцыя, здзічэнне і сярэднявечнае цемрашальства спраўляюць тут шалёныя оргіі.

Як не сумна, але ў гэтым д'ябальскім балі першыя пары водзяць „вучоныя мужы", што гняздзяцца ў беластоцкім філіяле Варшаўскага універсітэта. Адзін з іх, д-р Юзэф Марошэк нават узяўся пазбаўляць нас, праваслаўных беларусаў, нашай спрадвечнай святыні — праваслаўнага Супрасльскага манастыра. Накалупаўшы розных уніяцкіх ды іншых выдумак, ён у артыкуле *„Уніяцкія пачаткі манастыра ў Супраслі"* („Кур'ер паранны" № 66 (311) ад 5—7.04.1991 г.) намагаецца „даказваць", што быццам бы Супрасльскі манастыр заснавалі... уніяты, а з гэтага просты вывад



## А МЫ ПРАЎДУ ДОБРА ВЕДАЕМ...

— манастыр павінен належаць Каталіцкаму Касцёлу.

Каб лягчэй замыліць вочы несвядомым чытачам, Ю. Марошэк бярэцца за сваю нячыстую справу з воддалі. Сягае да бацькі заснавальніка Супрасльскага манастыра Івана Іванавіча Хадкевіча, намесніка віцебскага, вялікага гетмана і маршалка Вялікага княства Літоўскага, і абапіраючыся на пісаніну з XIX ст. нейкага правінцыянальнага шляхціча Касакоўскага, спрабуе давесці, што гетман быў прыхільнікам уніі. Дзеля гэтага беластоцкі гісторык спасылаецца на словы таго ж недавучанага шляхціча, што нібыта гетман Іван Хадкевіч „у 1476 годзе далучыўся да тых з рускае рэлігіі, якія ў паслушэнстве для папы жыць хацелі, і падпісаўся пад лістом ад іх, важных паслоў, да Сікста IV высланым". І тут варта ведаць, што той ліст пісаў мітрапаліт Місаіл, ад якога кароль Казімір Ягелончык запатрабаваў, каб ён перайшоў ва унію і напісаў пра гэта адпаведнае пасланне папу рымскаму. Прымушаны абставінамі мітрапаліт склаў вельмі блытанае, туманнае і хітрае пісьмо, з якога аніяк невядома было, ці ён прымае, ці адкідае унію. Кароль загадаў таксама некаторым сваім высокім службоўцам разам з мітрапалітам падпісаць гэты ліст. Подпісы былі прымушаны скласці Іван і Павел Хадкевічы ды князі Фёдар Бельскі і Дзмітры Вяземскі і іншыя асобы. Аднак папа Сікст IV, хоць і вельмі падкі на ўсялякую, нават ілжывую, гатоўнасць перайсці ва унію і надта ж шчодры на пісьмовыя благаслаўленні і пахвалы перабежчыкам, усё ж разгадаў няшчырасць гэтага ліста і эднёсся да яго з падазронасцю, пакінуўшы без аніякага адказу. Трэба дадаць, што неўзабаве пасля падпісання ліста князі Бельскі і Вяземскі, не могучы сцярпець праследавання праваслаўных у Казіміравай дзяржаве, каралеўскага прымусу пераходзіць ва унію і іншых здзекаў, са сваімі падданымі падаліся ў Вялікае княства Маскоўскае. І што на тое „гісторык" Марошэк?

Гэтак жа выглядае справа і з іншымі „доказамі" уніяцкасці заснавальнікаў Супрасльскага манастыра. Марошэк абапіраецца на самае заблытанае і зафальшаванае месца ў „Хроніцы Супрасльскае лаўры", што напісаў у пачатку XVIII стагоддзя уніяцкі манах Мікалай Радкевіч. Гэта быў час, калі на беларускіх і ўкраінскіх землях верхаводзілі уніяты. Яны рабілі ўсё, каб перавесці ва унію і такім чынам цалкам спаланізаваць бе-

(Працяг на стар. 4)

## ПАСЛЯ ВІЗІТУ

**Размова з УЛАДЗІМІРАМ РЫЛАТКАМ, віцэ-міністрам культуры Беларусі.**

— *У маі ў Польшчы знаходзілася афіцыйная дэлегацыя ад Міністэрства культуры БССР, якую ўзначальваў міністр культуры Яўген Вайтовіч. Перад тым, як паехаць у Варшаву, адзін дзень дэлегацыя правяла на Беласточчыне. Скажыце, калі ласка, якія ўражанні вынеслі вы з сустрэч з беларусамі Беласточчыны, як вы ўспрынялі праблемы, якія ставіліся прадстаўнікамі беларускіх арганізацый?*

— Гэты візіт адбываўся ў рамках нашай дамоўленасці з польскім урадам. У дагаворы аб супрацоўніцтве паміж міністэрствамі культуры Польшчы і Беларусі некалькі артыкулаў тычыцца ўвагі да беларусаў, якія жывуць у Польшчы, і палякаў, якія жывуць у Беларусі. Міністр культуры Беларусі ўпершыню прыехаў на Беласточчыну і напэўна была гэта гістарычная з'ява. Быў гэта рабочы візіт, таму што сувязі Беласточчыны з Беларуссю дастаткова разгарнуліся. Беларускім арганізацыям у Польшчы дапамагаюць Беларускі фонд культуры, Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына", бываюць нашыя калектывы. І ўсе, хто вяртаюцца адтуль, вельмі рады.

Я ўпершыню пабываў на Беласточчыне, хаця ўсё жыццё пражыў на Гродзеншчыне. Мяне ўразіла тое, што ў вас захаваўся фальклор, пачуў вашы калектывы. Яны бываюць і ў нас, але іх канцэрты ў нас успрымаюцца не так, як за мяжой. Уразіла мяне тое, што жывуць у вас людзі, якія зберагаюць беларускую мову, песню, усё беларускае і ганарацца тым. Праблемы на Беласточчыне, безумоўна, ёсць, у тым ліку і матэрыяльныя. Хаця б будаўніцтва Гайнаўскага музея, новага ліцэя, выдавецкая справа. Ёсць і праблемы такія, як і ў нас. Напрыклад, падручнікі, якія трэба нанава пісаць.

Мы былі ў праваслаўнай царкве ў Гайнаўцы, у Музеі, сустрэліся з беларусамі, і гэта ўсё, што мы паспелі пабачыць

(Працяг на стар. 6)




(Працяг са стар. 4)

польская і руская, што выклікае матэматычна дакладны працэс беларускага адраджэння (накшталт фізікальнага выраўноўвання ўзроўняў вадкасці ў злучаных начыннях).

Яраслаў Яновіч збірае па крупінцы факты зніштажэння беларускіх назоваў мясцовасцяў ды ўрочышчаў, гэтай свядомай і несвядомай дзікасці. Глупстваў тут польская адміністрацыя чаўпла і чаўпе нямала! Напрыклад: беларуская назва „груд" значыць зусім што іншае, чымсьці падобнае слова ў польскай мове (няцяжка здагадацца, як паляк разумее назву Юшкаў Груд, Дзевічы Луг — напісанае лацінскімі літарамі без захавання беларускага гуку „г"). Чыстай вады ідыятызм!

Пасля шматразовых анонсаў з'явіўся, урэшце, шаснаццаты нумар „Навуковых сшыткаў Інстытута палітычных навук" Варшаўскага універсітэта, які таксама ў значнай меры прысвечаны праблематыцы беларускай нацыянальнай меншасці. Добра, акуратна, па-еўрапейску дбайна падрыхтаваны да друку, без найменшай памылачкі! — гэтыя Zeszyty Naukowe Instytutu Nauk Politycznych.

У беларускіх тэмах дамінуюць тут браты Мірановічы, Яўген і Антон. Першы з іх змясціў унікальны матэрыял „Беларусы ў Беластоцкім ваяводстве паводле перапісу ў 1946 годзе". Дабраўшыся да архіваў таго часу, знайшоў ён такія рэчы, ад якіх невядома, плакаць ці рагатаць. Камбінацыі са статыстыкай у былым Сакольскім павеце вартыя пяра аўтара „Мёртвых душ". Беларусы там то з'яўляліся, то знікалі, бы той канапляны Філіп!

Антон жа Мірановіч даследуе ўмовы фармавання беларускай нацыянальнай свядомасці ў праваслаўным грамадстве Беласточчыны. Не месца ў артыкуле на пераказ доказаў, але фінальная рэфлексія наступная: беларус — гэта праваслаўны, а праваслаўны — гэта не толькі беларус, але ўсё часцей і паляк. Шарады ў гэтым няма, калі ўдумацца. Блізкі Антону сваімі навуковымі зацікаўленнямі Андрэй Садоўскі склаў амаль іранічную калекцыю тыпаў беларускага культурнага метысізму і духоўных мулатаў: рускі, праваслаўны тутэйшы, польскі праваслаўны, праваслаўны паляк, беларускі паляк, беларуса-паляк, паляка-беларус... Для справядлівасці трэба сказаць, што такая парода пярэстай красулі ёсць тыповая наогул народам, калі іхныя часткі знаходзяцца ў сітуацыі меншасці ў няроднай дзяржаве. Даволі нагадаць мільёны палякаў у Амерыцы, унукі якіх змяняюць прозвішчы на англьскі лад, з Яноўскіх ператвараюцца ў Джонсанаў.

**Сакрат Яновіч**



**НОВАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА**

# АБ ДЗЕЦЯХ ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

**Ад студзеня начала ў Мінску выходзіць новая беларуская газета „Дзеці і мы". Мне трапілі ў рукі першыя яе тры нумары — за студзень, люты і сакавік. Пад загалоўкам пазначана — „Газета Беларускага дзіцячага фонду".**

**У першым нумары, замест уступнага слова з пажаданнямі для новай газеты, вядомы беларускі паэт старэйшага пакалення Васіль Вітка пісаў:**

**„Дзіцячы фонд, грамадскія таварыствы і аб'яднанні ў імя ўратавання дзяцей, голасам якіх павінна стаць газета „Дзеці і мы", пачалі і пачынаюць свае дабрачынныя намаганні ў надзвычайна небяспечны і адказны час, калі ўсё грамадства, яго жывы арганізм раздзіраюць, ірвуць на часткі яшчэ і ўнутраныя супярэчнасці, трывогі і няшчасці, першымі ахвярамі якіх зноў-такі становяцца дзеці. Божа міласцівы, за што ж ім такая кара, бязгрэшным і бязвінным?"**

**Новая газета шырока інфармуе дарослых аб горы, болю і трагедыях дзяцей — і пацярпеўшых у Чарнобыльскай бядзе, і пакінутых і занядбаных сіротах, і наогул аб усіх беларускіх дзецях, на якіх наймацней лёг цяжар нялюдскай сістэмы ідэалагічнага таталітарызму.**

**Другі нумар „Дзеці і мы" друкуе варыянт Дэкларацыі правоў чалавека, апрацаваны ЮНЭСКА і спецыяльна адаптаваны для вучняў. Тэкст Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека быў зацверджаны Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый яшчэ ў снежні 1948 года. Тады ААН заклікала ўсе краіны-члены надрукаваць тэкст Дэкларацыі і спрыяць яе вывучэнню перш-наперш у школах і іншых навучальных установах. „На жаль, — піша газета „Дзеці і мы", — трэба прызнаць, што ў нас, на Беларусі, гэты надзвычай важны дакумент часта парушаўся, а таксама доўгі час свядома замоўчваўся і не распаўсюджваўся сярод грамадзян рэспублікі". Газета друкуе найважнейшыя параграфы Дэкларацыі. Рэгулярна ў газеце падаецца хроніка працы Беларускага дзіцячага фонда. „Амаль кожнае трэцяе пісьмо, — піша „Дзеці і мы", — кожны другі званок у Беларускі дзіцячы фонд — наконт дапамогі хвораму дзіцяці, мала забяспечанай шматдзетнай ці няпоўнай сям'і".**

**Газета інфармуе таксама аб дапамозе людзей добрай волі ўсяго свету — і фінансавымі сродкамі, і медыкаментамі, і медычнай апаратурай, а таксама прадуктамі і адзежай.**

**Наогул, газета „Дзеці і мы" — сумнага накірунку. Такі яе характар — паказваць патрэбы дзіцяці ў бядзе, горы, у хваробе, нездарма ж у яе ў падзагалоўку — газета Беларускага дзіцячага фонду. Але знайсці ў ёй можна і новыя апавяданні для дзяцей, і куточак „Хвілінка-весялінка", і старонкі нашай багатай гісторыі, і матэрыял у бібліятэчку легендаў і паданняў.**

**Галоўны рэдактар газеты — пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік, а таксама рэдакцыйная калегія з масцітых беларускіх пісьменнікаў дае падставы меркаваць, што газета „Дзеці і мы" хутка запалоніць чытачоў сваёй шчырасцю, злабадзённасцю і цёплым сардэчным беларускім словам.**

**ЯНІНА ЧЭРНЯКЕВІЧ**

**P.S. Нечаканасцю быў для мяне перадрук у № 3 „Дзеці і мы" майго артыкула з „Нівы" — „Шануем спадчыну". Цешуся, што аб жыцці беларускіх дзяцей на Беласточчыне змаглі даведацца чытачы і на Беларусі.**

# ПАСЛЯ ВІЗІТУ

(Працяг са стар. 1)

у вас. Мы чулі розныя водгукі, як ставіцца ўрад Польшчы да беларусаў. Хтосьці крытыкаваў, хтосьці выказваў падзяку. Гэта фактычна адлюстроўвае складанасць становішча. Добра, што падтрымка з боку польскіх улад ёсць. Міністэрства культуры і мастацтва заявіла нам, што ў гэтым годзе са сваіх рэзерваў выдзеліць паўмільярда злотых на Гайнаўскі музей. Скончыць такі будынак вельмі цяжка, а праца гэтага музея — таксама складаная справа. Патрэбна тут падтрымка дзяржавы, вылучэнне адпаведнай квоты грошай. Калі беларусы Беласточчыны створаць музей, а польскі ўрад знойдзе грошы на яго функцыянаванне — гэта будзе неардынарная падзея. Тады на гэтай базе можа разгарнуцца цэнтр беларусістыкі. Важная справа для музея — экспанатура. Мы размаўлялі з нашымі мастакамі, архітэктарамі і будзе магчыма наша дапамога ў якасці падарункаў і ў якасці выставак.

— *Якія іншыя пытанні, звязаныя з культурным абменам, закраналіся ў перамовах з польскім бокам?*

— У Беластоку ствараецца фестываль песні краін — усходніх суседзяў Польшчы: Беларусі, Літвы, Украіны, Расіі, і беларускія артысты будуць прымаць у ім удзел. Дамовіліся таксама, што ўсе тэатральныя і музычныя калектывы, якія абменьваюцца паміж Польшчай і Беларуссю, будуць наведваць сваіх суайчыннікаў. Мы запланавалі так, што кожны калектыў, які едзе ў Польшчу, наведае Беласточчыну, а польскія калектывы, якія прыязджаюць у Беларусь, — наведаюць польскія асяродзі.

Другі накірунак — выставы. У нас не захавалася многа спадчыны, якая нам вельмі дарагая. Таму да нас прыедзе выстава слуцкіх паясоў. У Польшчу паедзе выстава нясвіжскага партрэту, дзе будзе можна пазнаёміцца з творчасцю мастакоў, якія тварылі на Беларусі і маюць сувязі з польскай культурай. Вырашылі таксама, што патрэбна нам навуковае супрацоўніцтва, а менавіта стварэнне сумеснай камісіі, якая будзе даследаваць супольную спадчыну. Жыццё разам, побач, дало спадчыну, якая належыць і беларускаму і польскаму народам. Камісія будзе не толькі вывучаць, але і абменьвацца дакументамі і культурнымі набыткамі. Зрабілі мы таксама сумеснае з Дзяржаўным прадпрыемствам рэстаўрацыі помнікаў (ПКЗ) прадпрыемства, каб на тэрыторыі Беларусі аднаўляць старажытныя помнікі.

— *Ці ставілася пытанне дапамогі вашага міністэрства польскім арганізацыям і асяроддзям на Беларусі?*

— Безумоўна, гэтае пытанне абмяркоўвалася. Мы, калі ехалі ў Польшчу, сустракаліся з палякамі ў Гродне і чакаем візіту міністра культуры Польшчы ў нас. У палякаў таксама ёсць матэрыяльныя праблемы — клопаты з памяшканнем, друкам. У нас у дзяржаве наогул грамадскія арганізацыі не фінансуюцца дзяржавай. Ім даюць ільготы ў гаспадарчай дзейнасці, якія павінны дазволіць здабыць грошы, каб існаваць (дарэчы, гэта тычыцца таксама і беларускай грамады на Беласточчыне; трэба шукаць такія гаспадарчыя накірункі, якія маглі б узмацоўваць працу вашага Таварыства). Зараз у Гродне шукаюць памяшканне для друкарні. Знойдзена ўжо памяшканне для самога Таварыства, каб мелі дзе працаваць. Павінны мы ўсе яшчэ ведаць і наш агульны стан. Ніхто не можа жыць лепш, чым астатнія. Зараз на Беларусі ўсім цяжка, складана ўваходзяць у жыццё рыначныя адносіны, наглядаецца дэфіцыт дзяржаўнага бюджэту. Я лічу, што мы дапамагаць будзем, але ставіць справу як прыярытэт, не вельмі добра, У кожнай краіне ёсць свае ўмовы.

— *Які вынік вашага візіту ў Польшчу?*

— Дагавор з Міністэрствам культуры і мастацтва Польшчы заключаны быў раней. Зараз падпісалі мы дадатак да яго і дамову аб сумесным прадпрыемстве. Удакладнілі мы таксама шэраг пытанняў, якія тычацца адносін да беларусаў, якія жывуць у Польшчы, і палякаў, якія жывуць у Беларусі, сфармулявалі больш канкрэтныя прапановы. Візіт я лічу вельмі ўдалым. Нейкім адкрыццём для нас, бо не ўсе там бываюць, была сустрэча з беларусамі. Гэта можа і галоўная мэта нашай паездкі наогул у Польшчу.

— *На якія формы дапамогі з боку Бацькаўшчыны можа разлічваць беларуская грамада ў Польшчы?*

— Як будзе далей існаваць беларуская грамада — гэта пытанне самой грамады. У вас ёсць Таварыства, іншыя беларускія арганізацыі, якія павінны вырашаць свой лёс. Супрацоўніцтва ўстаноў з БССР з Беласточчынай адбываецца. Сувязі падтрымоўваюць Беларускі фонд культуры, „Бацькаўшчына", таварыства „Радзіма", міністэрствы культуры, замежных спраў, асветы, Таварыства беларускай мовы і іншыя. Мы ў сябе збіраем іх з мэтай стварыць каардынацыйны савет па сувязях з беларусамі Беласточчыны, які будзе абмяркоўваць усе пытанні і наладжваць арганізаваную канкрэтную працу.

Будзем дапамагаць у навучанні беларусаў з Польшчы ў нашых навучальных установах. Другі напрамак — накіраванне ў Беласток музычнага, тэатральнага і выяўленчага мастацтва. Трэці — дапамога кансультантаў мастацкім калектывам (мы на гэта можам вылучаць грошы). І яшчэ адзін накірунак — матэрыяльная падмога. Безумоўна, не можам даваць грошай, але ёсць розныя формы матэрыяльнай дапамогі, напрыклад, пастаўка патрэбных падручнікаў у школы, кніжак у бібліятэкі, матэрыялаў і абсталявання ў музей. Павінна быць сістэма дапамогі, матэрыяльная апора, каб кожны, хто жыве на Беласточчыне, ведаў, што дапамога будзе, і каб там таксама маглі планаваць сваю дзейнасць сумесна з намі.

Размаўляў у Мінску
**В. ЛУБА**

# „Беластоцкая мальва '91"

Зялёнагурскі Фестываль савецкай песні існаваў шмат гадоў і стаўся ўжо свайго роду традыцыяй у польскай эстраднай музыцы. У Польшчы амаль няма такога эстраднага спевака, якому не давялося прайсці праз гэты фестываль.

Больш фестываляў у Зялёнай Гуры не будзе. Будзе, аднак, фестываль у Беластоку пад назвай „Беластоцкая мальва". З'яўляецца ён як бы працягам фестывалю савецкай песні, ды толькі цяпер ён будзе называцца Фестывалем беларускай, літоўскай, рускай і ўкраінскай песні. Цэнтральныя эліміпацыі „Беластоцкай мальвы '91" адбудуцца 21-22 верасня г.г. у Беластоку. На сёння гэта адзіны фестываль, які яшчэ фінансуе Міністэрства культуры і мастацтва.

25 мая г.г. у беластоцкай зале „Форум" адбыліся ваяводскія эліміпацыі Фестывалю беларускай, літоўскай, рускай і ўкраінскай песні „Беластоцкая мальва '91". На чале журы стаяў вядомы эстрадны музык Станіслаў Фіялкоўскі, адзін з шматгадовых арганізатараў зялёнагурскага фестывалю, ён жа — кіраўнік варшаўскага музычнага ансамбля „Big Warsaw Band". Арганізатарам гэтых эліміпацый быў Ваяводскі дом культуры, а ад яго імя — вядомы беларускі музычны дзеяч, заслужаны для самадзейнага руху, Сцяпан Копа. Падрыхтоўваў да выступленняў і акампаніраваў спевакам вядомы беластоцкі музык Ежы Томзік са сваім аркестрам.

У ваяводскіх эліміпацыях узяло ўдзел шэсць салістаў і два дуэты. Кожны павінен быў заспяваць па дзве песні, з тым, што адна з іх мела быць абавязкова на польскай мове і была накінута зверху арганізатарам сёлетняга фестывалю ў Беластоку — ЗАКРам (Саюз эстрадных аўтараў і кампазітараў). Менавіта гэта не дазволіла многім патэнцыяльным удзельнікам узяць удзел у эліміпацыях. У гэтай групе апынуліся нават вядомыя раней удзельнікі і пераможцы ў фестывалях савецкай песні (Ю. Кардзюкевіч і дзявочы квартэт „Маланка" з Бельска-Падляшскага). Па-першае, было ўжо запозна, людзі мелі на падрыхтоўку да эліміпацый даслоўна адзін тыдзень, і не дзіўна таму, што некаторыя выканаўцы забываліся тэкст, мыліліся на сцэне. Па-другое, не кожнаму прапанаваныя Варшавай песні былі да спадобы. Усё ж такі чалавек мусіць мець нейкі псіхічны камфорт, хоча спяваць тое, што яму па душы! Нібы ў новай формуле фестывалю „Беластоцкая мальва '91" з загадамі ў музыцы мела быць скончана, а тут ізноў: калі не вырашае Масква, дык вырашае Варшава. Праўда, арганізатары фестывалю лічаць, што гэтыя песні, перакладзеныя, зрэшты, знакамітымі польскімі аўтарамі на польскую мову (дастаткова назваць хаця б Агнешку Асецкую ці Войцеха Млынарскага), надта дапамаглі эвентуальным удзельнікам мясцовых эліміпацый у цэлай Польшчы. Яны ж знаходзяцца ў іншай сітуацыі і не ездзяць так часта ў Савецкі Саюз, як беластаччане, у якіх шмат родзічаў жыве за мяжой. Ды, зрэшты, тут, на Беласточчыне, наогул шырэйшыя прыгранічныя кантакты, дык новыя песні і ноты прывозяць таксама едучыя да нас у госці. Ну, што ж, можа гэта і праўда, але ў Беластоку гэта выэлімінавала цалкам добрых спевакоў.

Што датычыць вынікаў ваяводскіх эліміпацый „Беластоцкай мальвы '91", дык найбольш апраўдаўся эстрадны спосаб выканання песень. Народныя песні не мелі такога зразумення ў журы. На занальныя эліміпацыі фестывалю, якія адбудуцца 1—3 ліпеня г.г. у Пшчыне каля Катовіц, выбраны наступныя асобы: Ала Дубец, якая прыехала аж з Санока, каб рэпрэзентаваць свой родны Беласток, Эва Сядлецкая з VI беластоцкага ліцэя, а таксама дуэт з VI ліцэя — Кацярына Крысевіч і Віялета Шымусюк.

Зычым ім усім вялікага поспеху ў фестывалі „Беластоцкая мальва '91"! А варункі дзеля перамогі яны маюць дасканалыя.

**Ада Чачуга**

# Звоняць „Званочкі"

Валянціна Сярых працуе ў Рэспубліканскім цэнтры эстэтычнага выхавання дзяцей — установе, створанай два гады таму, мастацкім кіраўніком дзіцячага вакальна-інструментальнага ансамбля „Званочкі". „Званочкі" хутчэй за ўсё трэба было б назваць ансамблікам, таму што кіраўнічка пастаянна працуе з групкай 7—8 дзяцей, прытым асобна са старэйшымі (10-14 гадоў) і асобна з малодшымі (5-10 гадоў).

Дзеці ў ансамбль падбіраюцца надзвычай старанна, можна сказаць, што нават са строгасцю. Пароўну важаць тут крытэрый мастацкі (музыкальнасць дзіцяці, уменне паводзіць сябе на эстрадзе) і крытэрый вонкавага выгляду (тое, што называем „прыгожым выглядам").

Свае рэпетыцыі „Званочкі" праводзяць, як казала мне В. Сярых, „пры адчыненых дзвярах", гэта значыць, шмат хто з дзяцей, якія папярэдне не прайшлі праз уступны адбор, глядзіць і прыслухоўваецца да таго, што робіцца на сцэне — па сутнасці, яны таксама вучацца. Бывае й так, што некаторых з іх праз нейкі час яна бярэ ў ансамбль.

В. Сярых ангажуецца ў дзейнасць чарнобыльскага камітэта Т. Белавокай, „Званочкі" выступалі з канцэртамі для пацярпелых ад Чарнобыля дзетак у бальніцы ў Аксакаўшчыне, запісалі свой канцэрт-рэквіем 26 красавіка для тэлебачання (праграму закупілі ў 10 краін свету), сёлета пабывалі з дабрачыннымі канцэртамі ў чарнобыльскі фонд у Польшчы. У Познані далі каля 20 канцэртаў, прымалі іх там надзвычай сардэчна, канцэрты мелі вялікі поспех (таксама, што тычыцца папаўнення чарнобыльскага фонду). Ёсць у „Званочкаў" дзве асабліва кранальныя песні: „Што прынесла хмара?" (словы Э. Агняцвет, музыка В. Сярых) і „Матачка Божая" (беларуская малітва, падабраная кіраўніком калектыву са зборніка псальмаў і малітваў, надасланага ім айцом Надсонам з Лондана; на канцэртах атрымліваецца так, што гэтае выкананне ўспрымаецца як надзвычай шчырая і кранальная малітва ад чарнобыльскіх дзяцей аб дапамозе). Сёлета мае выйсці зборнік песень для дзяцей „Певунок", падрыхтаваны да друку Валянцінай Сярых. Большасць тэкстаў на беларускай мове з народнага, але ёсць таксама тэксты А. Дзеружынскага, Н. Гілевіча, В. Жуковіча.

В. Сярых была ў журы мінулагодняга фестывалю беларускай песні ў Беластоку, сёлета ацэньвала выканаўцаў конкурсу дзіцячай беларускай песні ў Бельску. І вось рэфлексі. Валянціны Сярых пасля гэтага конкурсу — не надта вясёлыя. Сярод маладых нашых выканаўцаў ёсць шмат, што называецца, „сырых талентаў". Але ж няма каму ў нас узяць над імі прафесіянальную апеку — людзі, якія рыхтуюць дзяцей да конкурсу, нягледзячы на свой энтузіязм і адданасць, не маюць адпаведнай музычнай падрыхтоўкі. Таму, наогул, конкурс праходзіць davol па-аматарску, прыроджаныя музычныя здольнасці школьнікаў не заўсёды праяўляюцца на сцэне. Калі няма сваіх музычных спецыялістаў, то ці не варта падумаць аб нейкай форме супрацоўніцтва з прафесіяналамі з БССР? Хаця б на нейкі перыяд, скажам, на тыдзень-два перад цэнтральным аглядам? Вось гэтымі пытаннямі, скіраванымі ў адрас аніматараў нашага музычнага руху, я й хачу закончыць уступнае знаёмства з В. Сярых і яе „Званочкамі"...

**Ян Максімюк**



# Беларуская філалогія ў Кракаве

(Працяг са стар. 2)

Ukrainy". Organizatorem sesji były: Instytut Historii, Instytut Języków Wschodniosłowiańskich oraz Fundacja św. Włodzimierza.

Rozmawiałem z Włodzimierzem Mokrym i stwierdziłem, że powinna powstać fundacja, która obejmowałaby Kresy północno-wschodnie, zatem Białorusinów, Litwinów, Karaimów, Tatarów, Łotyszów. Do przemyślenia byłaby formuła — szersza czy węższa. Opowiedziałem o swoim pomyśle prof. dr. A. Krawczakowi z Kanady — był zachwycony i obiecał pomagać. Wysłałem list do Tadeusza Konwickiego — myślę, że trzeba sprawę nagłośnić i tym samym szukać sponsorów dla dobrej sprawy. Myślę, że fundacja powinna objąć różne wyznania i różne narodowości byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego.

Tą ideą jest zainteresowany prof. Leszek Bednarczuk z WSP i dr Henryk Kotarski (prof. Bednarczuk w tej chwili jest na uniwersytecie w Grodnie).

Oczywiście tej naszej fundacji będzie trudniej wykiełkować. Ukraińska Fundacja św. Włodzimierza dostała od Kurii Biskupiej kamienicę na ul. Kanonicznej o pow. 1500 m kw. bezpłatnie (w zamian za remont) i będzie mogła bezpłatnie użytkować przez 25 lat.

Ale myślmy i róbmy przymiarki. Zawsze coś z tego będzie. Proszę nad tymi problemami zastanowić się i zacząć coś robić.

**Henryk Bienkiewicz**

# ДЗЕД КОСТУСЬ

— Не ведаю, — смяяўся Мірэк, —. ці стары Костусь то вар'ят, ці толькі здзіцянеў.

— Чаму? — спытаў Марэк.

— Як толькі пачуе „Чырвоныя макі пад Монтэ-Касіна", то адразу плача.

— Сам ты вар'ят, — узлаваўся Марэк. — Каб ты перажыў тое, што ён, то таксама плакаў бы!

Марэк чытаў кнігі аб вайне і шкадаваў усіх салдат, якія змагаліся з ворагам. Мірэк крымінальны і раманы чытаў нават ноччу.

Костусь, фактычна, выглядаў на дзівака. Ён плакаў, калі хлопцаў бралі ў армію і страшэнна перажываў, калі надыходзіў верасень.

Верасень 39-га года ён памятае добра. Было яму ўсяго 20 гадоў, калі пачалася вайна. Як кончылася ваенная баталія для палякаў, кожны добра ведае. Многа польскіх салдат апынулася ў няволі і многа было забітых. Некаторым удалося трапіць у СССР. Сярод тых „шчасліўцаў" быў і Костусь.

Калі саветы пачалі школіць салдат, каб тыя хутчэй разам з Чырвонай Арміяй павярнулі немцаў назад, Костусь і многія яго сябры цешыліся, што хутка ўбачаць сваіх. Ніхто не думаў аб смерці. Усе думалі аб жыцці.

Аднак генерал Андэрс вырашыў інакш. Польскія салдаты пайшлі бараніць англійскія калоніі. Цяжка было жыць на пустыні. Брак вады быў найбольшым горам.

Калі польская дывізія пачала штурмаваць Монтэ-Касіна, Костусь быў паранены. На шчасце, рана была лёгкая і ён хутка вярнуўся да баявых сяброў. Колькі тады загінула салдат! Маладыя, толькі жыць! Хто быў кавалерам — то паўбяды, а хто жанаты — пакінуў дзяцей сіратамі. Іхняй крывёю прасякла зямля на Монтэ-Касіна.

Костусю было тады страшна. Баяўся, што больш ніколі не ўбачыць маці, бацькі, сёстраў і роднай вёскі. Далей не ведаў, ці сям'я жыве, ці іх фашысты забілі.

Калі ўрэшце здабылі Монтэ-Касіна, была вялікая радасць, аднак да Айчыны было далёка.

Скончылася вайна. Некаторыя сябры паехалі ў Канаду, у Англію, у ЗША, а Костусь вярнуўся дахаты.

Вёска была спалена. Людзі будавалі ўсё нанава. Многа мужчын і хлопцаў не вярнулася з вайны. Сям'я была жывая — гэта найбольш цешыла Костуся.

Маладым ён таксама баяўся верасня, а калі пастарэў, стаў баяцца панічна. Усё думаў, каб хоць не пачалася тая акаянная, праклятая людзьмі, вайна. Баяўся за сваіх сыноў, за ўсіх маладых хлопцаў. Як пачуў першы раз песню „Чырвоныя макі пад Монтэ-Касіна...", заплакаў. Яму прыпомніліся маладыя гады, калі на яго вачах гінулі сябры, а іх кроў засталася ў чужой зямлі...

Маладыя смяяліся з дзіўных паводзін дзядзькі Костуся. Для іх ён быў толькі дзіваком.

**Аўрора**




**СОУС „КАРЫ" (ІНДЫЙСКІ)**

**На 1 шклянку булёну з птушкі ўзяць 2 лыжкі масла, 2 лыжкі мукі, 1 лыжку прыправы „кары", лімонны сок, 1 шклянку смятанкі, соль, перац.**

**Муку прассяць, масла растапіць у каструльцы, дадаць „кары" і прасеяную муку. Перамяшаць, падаграваць, памешваючы яшчэ некалькі мінут. Паступова даліваць булён, мяшаючы венічкам, і падаграваць, пакуль не закіпіць. Густы соус перамяшаць з салодкай смятанкай, яшчэ раз падагрэць, зняць з агню, дадаць солі, перцу, лімоннага соку.**

**Падаюць да вараных яек, рыбы і птушкі, а таксама мяса, варанага ў булёне.**

**БЕШАМЕЛЕВЫ СОУС**

**На паўтары шклянкі салодкага малака трэба ўзяць паўтары лыжкі масла, паўтары лыжкі мукі, 2 жаўткі, соль і перац, 3 лыжкі сцертага жоўтага сыру.**

**Растапіць на патэльні масла, дадаць прасеяную муку, перамяшаць, а можна таксама сырое масла расцерці з мукою. Развесці некалькімі лыжкамі халоднага малака і ўліць халодную масу ў кіпячае малако, закіпяціць, памешваючы, зняць з агню. Жаўткі крыху збіць, дадаючы паволі некалькі лыжак гарачага, загушчанага мукою малака, пастаянна мяшаючы, каб не было клёцак. Разведзеныя жаўткі дадаць да рэшты загушчанага малака, перамяшаць. Дадаць па смаку солі і крыху перцу, перамяшаць з сырам.**

**Падаюць гэты соус да варанай гародніны. Заліваюць ім таксама стравы, прызначаныя да запякання, такія, як цвятную капусту, брусельскую капусту, поры, шпарагі, а таксама макарон, мяса, рыбу. Залітыя соусам стравы пасыпаюць сцертым сырам і запякаюць.**

**ПАМІДОРНЫ СОУС (ДА МАКАРОНУ)**

**На 15-20 дэкаў свініны трэба ўзяць 2 цыбуліны, 1 моркву, 1 пятрушку, кавалак сэлера, 1 лыжку масла, 2 шклянкі булёну, 3 лыжкі алею, 2-3 лыжкі памідорнай пасты, 2-3 гваздзікі, некалькі зярнят англійскага зелля (пахучага перцу), соль, перац, 3 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі.**

**Гародніну памыць, абабраць, нарэзаць. Памыць і нарэзаць мяса. Гародніну і мяса змалоць у мясарубцы. Усё пераложыць у каструльку, дадаць алей, крыху падсмажыць, памешваючы, заліць гарачым булёнам. Варыць мінут сорак. У канцы дадаць англійскае зелле і гваздзіку. Звараны соус перамяшаць з памідорнай пастай, дадаць солі і перцу. Можна дадаць крыху цукру. Усыпаць зялёную пятрушку.**

**Гарачым соусам заліць вараны макарон і адразу ж падаваць з салатай.**

**ГАСПАДЫНЯ**




Дарагое Сэрцайка, са мной працаваў адзін хлопец. Быў ён цудоўны, малады, прыстойны, прыгожы. Было яму гады 22, калі прыйшоў да нас. Усе дзяўчаты аж млелі, каб схадзіць з ім у кіно ці на якую дыскатэку, або каб прынамсі прайсціся разам з ім па вуліцы. А ён дзяўчат змяняў, як рукавічкі: то хадзіў з адной, то з другою. А пасля прыйшла чарга і на мяне. Калі ён глядзеў на мяне сваімі палымянымі вачыма, я млела, як і ўсе іншыя. Аднак жа сустракаліся мы з ім толькі два месяцы, а пасля ён пакахаў іншую, і я вельмі перажывала гэта. Праз год наш амант пераехаў у іншы горад. Там яму запрапанавалі лепшую, больш платную працу і ён ахвотна згадзіўся перайсці туды, тым больш, што горад быў цікавы. Знаходзіўся ён на ўзбярэжжы Балтыйскага мора, так што летам адпачынак быў дармовы.

І так неяк усё прыціхла, а я ў душы дык нават цешылася, што ён выехаў з нашага горада, бо прынамсі не калола ў вочы, што ён ходзіць з іншай, і не мучыла мяне зайздрасць.

Праз дзесяць гадоў хлапец нечакана вярнуўся ў Беласток. І зноў пачаў працаваць на нашым прадпрыемстве. Я глянула на яго і нешта мне ў ім не спадабалася. Дзяўчаты, вядома, ізноў ліплі да яго, але ён абкідаў іх халодным, абыякавым позіркам і ні з кім не ўмаўляўся на ніякія сустрэчы. Я спачатку падумала, што ён дзесьці там, дзе быў 10 гадоў, закахаўся, і нешчаслівае каханне, магчыма, прымусіла яго вярнуцца назад. Але высветлілася праз нейкі час, што нікуды ён не ездзіць, да нікога не піша, ды і насуп не закаханы ён.

„У чым жа справа?" — думала я. І неўзабаве ў мяне ўзніклі пэўныя падазрэнні. Неяк ён сябе паводзіў, як паненка. Вочы ў яго заставаліся халодныя, але стараўся ўсім падабацца. Ну, зусім, як дзяўчына. І міны такія, і рухі нейкія меў бабскія.

Аднойчы, калі мы з сяброўкамі мерылі ў маім пакоі нейкія заходнія анучы, ён неспадзявана ўвайшоў, бо мы забыліся замкнуць дзверы. Вылецеў з гэтага пакоя, як апараны. А якога крыку нарабіў! Ну, і што ж тут такое, дзяўчыны без сукенкі не бачыў?! Для мяне гэта стала ўсё больш дзіўным.

А калі ўжо пачынаў расказваць пра жанчын ці дзяўчат, дык нам проста моташна рабілася. Заўсёды ён быў атакаваны, яго праследавалі бабы, тая да яго заляцалася, іншая хацела з ім пераспацца, ну, проста вылазіла з яго нейкае незадавальненне гэтым фактам. А нармальны ж мужчына, калі бабы да яго лезуць, дык цешыцца, праўда?! І не надта ахвоча расказвае аб гэтым пры ўсіх. І я падумала, што гэты наш калега бадай стаўся педэрастам. Скажы, Сэрцайка, ці магчыма гэта, каб калісь нармальны чалавек так звіхнуў сваю псіхіку?

**Валянціна**

Валянціна! Усё магчыма. Перш за ўсё, педэраст мусіць мець прадумовы да таго, каб стацца педэрастам. Бываюць і ў мужчын, і ў жанчын фізіялагічныя адхіленні ад нормы, але ў выпадку, апісаным табой, здарылася, бадай, інакш. Проста, перасыціўся ён усімі гэтымі бабамі, якія ліплі да яго з-за яго прыгажосці. Вось і перайшоў на іншыя рэйкі. А калі жыў на ўзбярэжжы, дык яшчэ і козыр яму ў рукі: найбольш аматараў гэткіх забаў ёсць якраз у марскіх партах, куды прыязджае шмат людзей з усяго свету. Ты вельмі добра заўважыла, што праўдзівы мужчына наогул цешыцца, калі мае поспех у нейкай жанчыны, а гэтага, як відаць, бабы пачалі наогул дражніць і выклікаць у яго агіду.

**Сэрцайка**

P.S. У нашай краіне педэрасты таксама лічацца нармальнымі людзьмі. Так што твой калега нармальны чалавек, толькі з крыху іншымі псіхафізіялагічнымі патрэбамі. Людзі яшчэ да гэтага не зусім прывыклі.




Сніцца мне, быццам прыехала я да сваё мамы на вёску. Іду па вуліцы і бачу, што пры панадворку майго суседа, проста на вуліцы, расце жыта. Жыта гэта вельмі прыгожае, зялёнае, густое. Я здзівілася і думаю: „Як жа ж я дайду да сваё мамы праз гэтае жыта?! Я ж яго памну!" Я яго далікатна разгортваю і шукаю прагаліны, каб прайсці. Ну, нарэшце прайшла я праз гэтае жыта. Зайшла я да мамы, а там мая сяброўка смажыла блінчыкі, ды былі яны такія прыгожыя! Сяброўка наліла чарговую порцыю на патэльню і крыху пралілося на пліту. Я ёй кажу, што гэта нічога, спячэцца, бо пліта гарачая. Яна спякла, але швырнула гэта ў вядро, у якім былі дровы. Мне стала шкада цеста, і я гэты блін выняла з вядра. У нашай хаце была моладзь. Хлопцы і дзяўчаты ўваходзілі і выходзілі з хаты. Што гэта такое?

**Геня**

Геня! Твой сон добры. Ты ішла па вуліцы праз жыта і можаш спадзявацца нейкага прыбытку ў гаспадарцы. Поспех і вяселасць абазначаюць і тыя бліны, якія смажыла твая сяброўка. І нават вядро, у якое ўкінула яна няўдалы блін, не было пустое, а з дровамі. Калі б было яно пустое, магло б гэта абазначаць нейкую няўдачу, расчараванне і страту, а ў вядры ж былі дровы — ізноў для цябе поспех і нейкі прыбытак.

Астроне, жонка мая пайшла радзіць, а мне прысніўся такі сон. Вось я на яе бацькаўшчыне стаю разам з яе бацькам, які ўжо не жыве. Бацька паказвае яблыкі на яблыні. А тыя яблыкі вельмі вялікія. На зямлі расла трава. Што сон можа абазначаць?

**Сярожа**

Сярожа! А ў цябе, на жаль, можа выкнікнуць сварка з жонкай. Яблыкі, яны заўсёды прадвяшчаюць раздор, тым больш, што і бацька табе прысніўся, а гэта ўжо пэўны клопат.

**Астрон**



Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Уладзімір Юрэвіч

# ЯК ЛУКАШОК СТРАХ АДГАНЯЎ



У іх сям'і з'явілася маленькая Таня.

— Гэта твая сястрычка, Лукашок, — тлумачыла мама. — Ты будзеш яе любіць?

Лукашок нічога не адказаў, толькі зірнуў на загорнутую ў коўдру жывую лялькі. Яна ўставілася сваімі сінімі вочкамі кудысьці ўгару і нікога не заўважала. Але калі Танечку распавівалі і жывы ружовенькі камячок гэтак смешна дрыгаў ручкамі і ножкамі, калі чуваць было невыразныя, але жывыя гукі „кхэ", „агу", „уа", Лукашку станавілася нават цікава. Хлопчык пачынаў забаўляцца. Ён падстаўляў свой вялікі палец. Танечка доўга лавіла яго, а злавіўшы, доўга не адпускала. Лукашку было весела.

Хлопчык усё больш забаўляўся з сваёй сястрычкай. І не толькі забаўляўся, але і памагаў маме, чым толькі мог.

Навучыўся прасаваць чыстыя пялёнкі, распашонкі. Іх шмат заўсёды, і мама не спраўлялася даводзіць іх да ладу, пакуль спала Танечка.

Тады за работу браўся Лукашок. Спачатку боязна было браць цяжкаваты электрычны прас. Яму ўсё здавалася, што ён абавязкова спаліць пялёнку або апячэ сабе руку.

Лукашок назіраў, як мама, уключыўшы прас, праз некаторы час неяк надта ж ужо спрытна мачала палец у ваду і кратала ім знізу прас, каб праверыць, ці нагрэўся. Хлопчык усё дапытваўся:

— Мама, а табе не страшна? Ты ж можаш апячы палец...

— Не апяку, — смяялася маці. — Палец жа мокры, не паспявае апячыся... Ледзь дакрануся — калі шыпіць, значыць, прас нагрэўся...

Каторы ўжо раз Лукашок мачаў палец у ваду, але дакрануцца да праса ніяк не адважыўся. Ён добра помніў, як маленькі схапіўся зверху за электраплітку, якая была толькі што выключана і так моцна апякла Лукашковы пальчыкі, што мама доўга вадзіла яго пасля ў паліклініку лячыць руку.

Аднойчы мама з Таняй пайшлі гуляць, а Лукашок рашыў памагчы маме — пагладзіць пялёнкі. Хлопчык уключыў прас у разетку ад радыё. Трохі счакаў, паслініў палец, каб праверыць, ці нагрэўся прас. Доўга

(Працяг на стар. 10)



*Жывая вада возера Свіцязь.* *Фота М. Лукшы.*

„Беларуская песня '91" — для вучняў

## ВЫНІКІ КОНКУРСУ

**У катэгорыі наймалодшых — класы I-IV**

**Салісты**

I месца — **Аркадзь Якімюк** з Чыжоў.
II месца — **Эля Саевіч** з Чаромхі.
III месца — **Давід Скавародка** з Грабаўца (гм. Дубічы-Царкоўныя).

**Дуэты і трыо**

I месца і ўзнагароду фірмы „Эльвімекс" заваяваў дуэт з Чыжоў — **Аркадзь Якімюк і Эля Карзуновіч.**
II месца не прызнана
III месца — трыо **Ёля Герасімюк, Бася Жубар і Давід Скавародка** з Грабаўца

Сярод калектываў I месца журы прызнала вакальна-танцавальнай групе **„Крынічанька"** з Кляшчэляў.

**У катэгорыі вучняў V—VIII класаў**

**Салісты**

I месца і ўзнагароду фірмы „Эльвімекс" заваявала **Марта Драль** з Васількова.
II месца падзялілі: **Эва Ласкевіч** з Беластока і **Ася Масайла** з Гайнаўкі.
III месца прыпала супольна **Юлі Карзуновіч** з Чыжоў і **Агнешцы Камінскай** з Кляшчэляў.

**Малыя групы — дуэты, трыо і квартэты**

I месца — дзявочае трыо з **Дашоў.**
II месца — хлапечае трыо з **Чаромхі.**
Два III месцы — для дуэту сясцёр **Крысі і Ёлі Семянюк** з Храбалоў і для дуэту **Асі Мартынюк і Войтка Томчука** з Дубяжына.

**У катэгорыі вакальных і інструментальна-вакальных калектываў**

I месца — хлапечы ансамбль **„Жучкі"** са школы № 3 у Бельску.
II месца падзялілі — дзявочая група са **школы № 3 у Бельску** і **„Лянок"** з Кляшчэль.
III месца заняў калектыў **„Беларусачкі"** з Дашоў.

Наступны конкурс беларускай песні — праз год.

Жадаю ўсім удзельнікам і слухачам новых прыгожых песень, часцейшых канцэртаў і далейшых поспехаў.

**Яніна Чэрнякевіч**

Васіль Краўчук

### ЗАГАДКІ

**Той будынachак маленькі,**
**А ўнутры ён саладзенькі.**
**(Вулей)**

**Гарох той размок**
**І пабег ручаёк.**
**(Град)**

**З неба грукнула,**
**Гарохам сыпнула.**

З украінскай мовы пераклаў
**В. БАБЕЙ**

ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Авяр'ян Дзеружынскі

### ДОЖДЖЫК

Па былінках,
Па галінках
Скача дожджык
Уначы.
Ён напіцца,
Ён наліцца
Хоча жыту
Памагчы.
Шапачы,
Лапачы,
Цёплы дожджык,
Уначы!

### РАМОНКА І АДУВАНЧЫК

Запыталася
Рамонка
Галаском
Дзіцячым,
Тонкім:
— Адуванчык,
Мой браточку,
А дзе ж твае
Валасочкі?
— Адкажу
Табе я, слухай —
Сам па ветры
Іх раздзьмухаў,
Па зямлі
Я іх рассеяў,
Бо яны,
Яны ж насенне.

### ПЧОЛКІ

Рана-рана ўранку,
Ледзь заняўся золак,
Разбудзіла матка
Працавітых пчолак.
— Адпачылі трошкі
І пара на працу —
Мядовую ношку
У чыстым полі браці.
Не шкадуюць краскі
Сок салодкі ўлетку.
Дык сядайце, пчолкі,
На любую кветку!

Беларускія гульні

### ШЧУПАК

**Апісанне гульні:** Дзеці лічацца і выбіраюць шчупака і матку. Шчупак адыходзіць убок, а ўсе становяцца за маткай, моцна трымаюцца за яе і адзін за аднаго. Шчупак кідаецца то ў адзін, то ў другі бок і імкнецца схапіць самага апошняга ў калоне, якая „доўгім хвастом" стараецца ўвільнуць ад шчупака. Гульня працягваецца да таго часу, пакуль не будуць схоплены ўсе, хто стаяў за маткаю.

**Правілы гульні:** ігрок лічыцца злоўленым, калі шчупак дакранецца да яго рукой; пры паўтарэнні гульні на ролю шчупака і маці назначаюць з сярэдзіны калоны.

## Малюнкі школьнікаў



„Усё смяецца, калі Сінявочка спявае". Малюнак Пятра Лесніка, II клас, школа ў Храбалах.

## Вершы Віктара Шведа

### СЛУХАЧЫ

Сядзіць у прыёмнай
Група хлапчукоў.
Лекар спытаў скромна:
— Хто наконт зубоў?

— Я, — прызнаўся Сёма,
— Чаму ж вас аж пяць?
— Слухачы, вядома,
Як буду крычаць.

### ЧАМУ Ж ЁН УКАЗАЛЬНЫ?

Выхавання пачаўся урок,
Маці вучыць маленькага Ваню:
— Не паказвай пальчыкам, сынок,
Сведчыць ён аб кепскім выхаванні.

А сынок матулі даў адбой:
— Недаразуменне гэта, натуральна.
Ты ж вучыла: другі палец мой
Называецца заўсёды указальным.

### Я НАРАДЗІЎСЯ Ў СЕНАКОС

Дзынкнуў званочак у школе.
Пачаўся першы урок.
Настаўнік пытае Колю:
— Калі нарадзіўся, сынок?

— Я нарадзіўся, вядома,
У веснавы сенакос.
Мяне татулька дадому
У сене духмяным прывёз.

## ЯК ЛУКАШОК СТРАХ АДГАНЯЎ



(Працяг са стар. 9)

намерваўся, тады ўсё ж дакрануўся і... нічога. Нічога не зашыпела. Прас быў халодны.

Лукашок уключыў прас у другую разетку, ад настольнай лямпы. Пачакаў трохі, памачыў палец у шклянцы з вадой, набраў у грудзі паветра і хацеў з размаху дакрануцца пальцам да нізу праса, але нехта нібы спыніў яго руку. Хлопчык нават азірнуўся: ці не стаіць хто за ім? Не, няма нікога.

Мінула якая хвіліна, не больш. Лукашок зноў памачыў палец у ваду, на кончыку павісла вязізная кропля. Ён зажмурыўся і пачаў пальцам шукаць прас, які трымаў у другой руцэ. Так і не знайшоў яго. Расплюшчыў вочы, бачыць: палец высока над прасам у паветры спыніўся. Зноў памачыў палец і, ужо не зажмурваючы вочы, хуценька дакрануўся ім знізу да праса. Адхапіўшы палец, як гэта рабіла і мама, раптам пачуў, як нешта ціхенька зашыпела. Значыць, нагрэўся... Можна прасаваць.

Лукашок паставіў прас на падстаўку, а сам усё ўзіраўся ў палец. На ім нічога не было відаць. І куды тая кропля вады дзелася?! Яшчэ раз памачыў палец і дакрануўся да праса спадыспаду. Зноў ціхенька зашыпела... І ён пачаў вадзіць прасам па разасланай плянёцы спачатку знізу ўверх, пасля справа налева. Плянёнка станавілася гладзенькая, бліскучая, як новая.

Тут і мама з Танечкай вярнуліся з пагулянкі. Распрануліся. Мама падышла да Лукашка, убачыла толькі адну адпрасаваную плянёнку і здзівілася:

— Гэта ты, Лукашок, толькі адну плянёнку адпрасаваў? Што ж ты рабіў?

— А я, мамачка, страх адганяў ад сябе.

— Які страх?

— А во, глянь, — і ўзяўшы прас у правую руку, пальцам левай, памачыўшы яго ў шклянку, дакрануўся да праса. Той зашыпеў.

— Во, чуеш? Гарачы! А я не баюся гарачага.

Алесь Бачыла

### ВОЗЕРА

Як люстра, возера лягло
Шырока ў ясны дзень, —
Пры самым беразе сяло
Гайдалася ў вадзе.

Гарэла сонца ў глыбіні,
І насустрэчу дну
Страхою жоўтаю уніз
За домам дом нырнуў.

З іх каміноў сівы дымок
Ледзь бачна смыліў,
І нават людзі, бы знарок,
Нагамі ўверх ішлі.

Плылі за харчам карасі
Над іхняй галавой,
Нябёс бязвоблачная сінь
Зліва лася з вадой.

А жаўтавусыя сумы,
Здавалася, ў вадзе
Праз дрэвы лезлі, праз дамы
І нават праз людзей.

Аркадзь Куляшоў

### ВОБЛАКА

Уткнуўшы ў бераг вудзільно,
Я вуджу раніцою.
А воблака? Плыве яно
І небам і вадою.

Нарэшце клюнула разок —
І рыбка немалая! —
З пяром гусіным паплавок
Пад воблака ныраe.

Стаіў дыханне. Цішыня...
Убок
Рукой умелай
Я падсякаю галаўня,
Цягну з хмарынкі белай.

Вада ў кругах,
Вада ў кругах,
І неба ў ёй не тое...
А воблака? Яно ў руках
Трапечацца жывое.

Васіль Краўчук

## ЗАГАДКІ

Белых трыццаць два браты
Маю я і маеш ты.
(Зубы)

Удзень і уночы ісці я мушу,
Але ж з месца ўсё ж не зрушу.
(Гадзіннік)

Залацістая нітка ўецца,
Толькі ў рукі не даецца.
(Сонечны прамень)

**З украінскай мовы пераклаў Валерый Бабей.**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

СССР, 346523, Ростовская область, г. Шахты, ул. Бульварная, д. **35**, кв. 15. **Маркина Оксана.** (9 гадоў. Збірае маркі, укладкі і фанцікі ад цукерак і жвачак. Хоча пазнаёміцца з дзяўчаткамі і хлопчыкамі).

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

### ПАСЛУХМЯНАЯ ВУЧАНІЦА

Першакласніца прыходзіць са школы, а мама пытае:

— Алёнка, а хто за табою сядзіць?

— Я не ведаю, настаўніца казала, што назад паварочвацца нельга.

### КУДЫ СПЯШАЦЦА

— Хутчэй збірайся, а то спознішся ў школу! — гаворыць мама сыну.

— Нічога, школа адчынена ўвесь дзень.

### ГАРАНТЫЯ ЗАХАВАННЯ

Класны кіраўнік:

— Як трэба берагчы падручнікі, каб яны заўсёды былі як новыя і чыстыя?

— Лепш іх зусім не насіць у школу! — адказаў Пеця.

Прыслаў **В. С. Бабей**

## АДГАДАНКА

Знайдзі дзевяць адрозненняў у гэтых малюнках.







Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".

## КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1) „змей“, які глытае смецце, 7) ...Рака або Казярога (праходзіць у адлегласці 23°25' ад экватара), 8) тоўстае палатно (у канцы яго **дно**), 9) сфера грамадскай або дзяржаўнай дзейнасці, 11) свішча і дзяўбе вішні, 13) спартыўныя гульні раз у чатыры гады, 16) пасярэдзіне яго нос, 17) у ёй мыюцца і парацца, 20) прадукт з кормніка, 23) мяшок са слова **робат**, 24) колькі яго не кармі, а яго ў лес цягне, 25) лінія, па якой трэба рухацца, 26) актыўнае дзеянне на дасягненне (па баках **а**, а ў сярэдзіне **так**).

**Уніз:** 1) „парасон“ для спуску чалавека з самалёта, 2) ёсць парусная, маторная і падводная, 3) звязаны пук зжатых сцёблаў, 4) шырокая гарызантальная дошка на высокіх падпорах, 5) у іх дзве калашыны, 6) вельмі скупы чалавек, 10) ляцяць з-пад пілы або напільніка, 12) не адна ў атласе або ў калодзе, 14) памяшканне, якое можна вазіць з сабой, 15) казацкая рака, 18) старонка ў „Ніве“, 19) напрыклад, чарніца, 20) усё навакольнае, 21) пачынаецца ў чэрвені, 22) цяпер ляжыць перад табой.

**„ядань“**

Сярод чытачоў, якія на працягу аднаго месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку, змешчаную ў № 18.**

**Упоперак:** тужурка, сіла, бал, абрыкос, цэннік, ікона, асколак, меандр, гудок, бард, камлыжына, карлік, азарт.

**Уніз:** трагізм, журбота, рыкша, абсцэс, слон, адскок, наладчыца, аргамак, ежа, надкол, грыжа, квант, баск.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае Аляксандр Дабчынскі з Беластока.

## НІЎКА

ЦУДОЎНА, ШТО МОЙ СЫН СПАРТСМЕН. ЁСЦЬ ШТО ПРАПІВАЦЬ.

A.S.

*Мал. Адама Сяменчыка.*

Вакол літаратуры і літаратараў

### МОВА МАШЫНІСТКІ ЦЯПКІНАЙ

У Саюзе пісьменнікаў ішло абмеркаванне беларускай прозы. Хтосьці з крытыкаў папракнуў Тараса Хадкевіча, што ў яго творах мова ну рыхтык, як на старонках „Звязды“. Тарас Канстанцінавіч падхапіўся і закрычаў з месца:

— Я ганаруся, што пішу на мове Цэнтральнага органа Камуністычнай партыі Беларусі — газеты „Звязда“!..

Пятро Глебка, які вёў сход, астудзіў Тараса Хадкевіча:

— Але ж мову ў газеце „Звязда“ робіць машыністка-перакладчыца Цяпкіна... Вось на яе мове вы і пішаце. Так што ганарыцца няма чым...

### ЧЫТАЦКІЯ ФАРМУЛЯРЫ

На адным са сходаў у Саюзе пісьменнікаў даволі рэзка крытыкаваліся раманы Уладзіміра Карпава.

— Але ж іх чытаюць! — кінуўся бараніць пісьменніка нехта з яго сяброў. —Днямі я быў у бібліятэцы, глядзеў чытацкія фармуляры. З твораў беларускай літаратуры найбольш бяруць раманы Уладзіміра Карпава...

Наступны прамоўца, выйшаўшы на трыбуну, адрэагаваў на рэпліку так:

— На жаль, у чытацкіх фармулярах не адзначаюць, колькі чытачоў вярнула кнігі, так і не дачытаўшы іх да канца...

Запісаў **Барыс Сачанка** („Вожык“)

## Анекдоты ад чытачоў

Сядзіць п'яніца ў лужыне. Падыходзіць да яго міліцыянер і кажа:

— Ты чаго тут сядзіш?

П'яніца пытае:

— А ты якая міліцыя, марская ці сухапутная?

— Сухапутная.

— Тады не лезь у нашы марскія справы!

* ✲ *

Брэжнеў:

— Як жывеце, таварышы!

— Жывём добра, — адказвае народ.

— А ці хацелі б вы жыць яшчэ лепш?

— Калі будзе ваша ўказанне, будзем жыць яшчэ лепш.

* ✲ *

У сям'ю, якая вечарам сядзіць за сталом і п'е чай, прыходзіць госць:

Госць: „Ці можна памыць рукі“?

Гаспадыня: „Вы рукі мыеце з мылам“?

Госць: „З мылам“.

Гаспадыня: „Тады чай будзеце піць без цукру“.

* ✲ *

Старшыня сесіі аб'яўляе членам Вярхоўнага Савета:

— Дэпутаты, якія аддаюць перавагу сацыялістычнаму шляху, прайдзіце, калі ласка, налева. Тыя хто за капіталізм — направа. А вы што так кідаецеся, таварыш Сабчак?

— Ды я не вызначыўся яшчэ.

— Тады ідзіце да нас, у Прэзідыум.

*Даслаў В. С. Бабей*

### ЗЯЛЁНЫ АНТОН

Антон — зялёны, малады,
Жаніцца хлопцу — не гады.
А петушыўся ля дзяўчат.
У гэтай справе быў ён хват.
І раптам заказаўся ён:
Не есць, не п'е і дрэнны сон.
Бацькам прызнаўся неяк раз:
— Нявесту прывяду да вас.
А маці ў плач: — Малакасос!
Вунь абатры свой лепей нос! —
Пакінуў тэхнікум, таўкач,
Бяжыць на пляж, ганяе мяч.
Пайшоў бацькам наперакор —
І загудзеў вяселлем двор.
Праходзіць год... Радзіўся сын,
А на другі — яшчэ адзін.
Па вушы стала тых клапот:
Грэй малако, вары кампот,
Няма схадзіць калі ў кіно.
Ды праваліся ўсё яно!..
Павесіў нос цяпер Антон,
Што ажаніўся рана ён.
А каб паслухаўся бацькоў —
Гуляў і сёння б малайцом.

**Захар Бірала**

### ПАЧУТАЕ

**„Дзяўчына з цялячымі капытамі, падыдзіце да прылаўка“ (Рэпліка прадаўца).**

✲

**„Таварышы пасажыры, просьба зняць з прыступкі заднія ногі...“ (У аўтобусе).**

✲

**Калі табой усе па горла сыты, значыць, з'ядуць.**

✲

**Поспех заўсёды побач, трэба толькі даведацца побач каго.**

✲

**Нішто так дорага не цэніцца на прылаўку, як тое, што схаванае пад ім.**

✲

**Муж — гэта ўсё, што асталося з мужчыны пасля шлюбу.**

✲

**Ці трэба мець свой погляд на рэчы, калі яны чужыя?**

**„ХА-ХА“**

*Мал. А. Папова („Вожык“).*


# Ніва

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палопкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар).

„Niwa“, ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

I. Prenumerata pocztowa

1. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1991 r. upływa 20 sierpnia 1991 r.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13.000 zł + 6.500 zł za doręczenie. Od lipca 1 egz. kosztować będzie 1.000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1800 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
— czerwiec — 9.000 zł.
— lipiec — 8.000 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26.000 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok. 5021-3203-132.

Zam. 554/91.


## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ

**Справаздача з Міжнароднага кангрэса беларусістаў у Мінску ● У стыхіі роднай культуры — партрэт Баляслава Манкевіча ● „Родны схоў“ — новы зборнік Віктара Шведа ● Што палякам трэба ведаць пра Беларусь ● Новыя выданні ● Адгалоскі: Я. Максімюк — яшчэ аб пленуме, В. Петручук — аб М. Панфілюку, Аўрора — аб „адбрахалках“.**